*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***



# Наша слова




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 31(365)** **12 ЖНІЎНЯ 1998 г.**

## Чатыры тыдні ў ліпені

Прыватны агляд беларускага друку.

***Прывід "Вольнай Беларусі".***
***Падпіска на "Наша слова".***
***Ці быў А.С. Пушкін "някепскім паэтам". (НС", № 25,26).***

Мо вінаваты летні час, а мо выпадак, але ў ліпені трапілася мала публікацый, пра якія хацелася б паразважаць, ці каму параіць. Міжволі думкі скіраваліся да перспектываў.

Сенсацыйныя чуткі пра планы ўтварэння радыёстанцыі пад умоўнай назвай "Вольная Беларусь" даюць нагоду, каб агледзець крытычным вокам беларускія інфармацыйныя абшары. Бо хай размяшчэнне будзе ў Польшчы, а грошы — з Еўропы ды Амерыкі, але ж слухачы і журналісты могуць быць толькі нашыя! Здолеюць супрацоўнікі такога новага радыё ўзняцца над традыцыямі савецкай беларушчыны, захоўваючы сувязь і ўзаемаразуменне з шырэйшай аўдыторыяй? Назіранні за беларускімі СМІ падказваюць, што гэткія цяжкасці адольваюць нямногія, і вінаваціць трэба тут не толькі кваліфікацыю журналістаў.

Праявы той жа праблемы можна пабачыць па выніках падпіскі на "Наша слова". Не здзіўляе невялікая колькасць падпісчыкаў, але змушае звярнуць увагу тое, што "НС", якое друкуецца ў Лідзе і заснаванае сёння на тэкстах правінцыялаў найлепш чытаюць на берагах Свіслачы. "Маўчанне Менска" разам з цікавасцю да выдання сведчыць, на маю думку, пра нізкі ўзровень незапатрабаваных магчымасцяў сталічнай інтэлігенцыі і . . . гэткі ж узровень задавальнення патрэбаў у Беларушчыне.

Дарэчы, пакуль аспіранты, кандыдаты і дактары з менскай ды іншай прапіскай маўчаць, аматары працуюць, нягледзячы на летнюю пару. Я не стаў бы аналізаваць артыкул сп.Блінкоўскага у "НС" пра Пушкіна і Міцкевіча, калі б не дзве акалічнасці. Па-першае, ён, хаця і аматарскі, шмат у чым пераўзыходзіць творы прафесіяналаў: надзённы, востры, цікавы. Па-другое, ён надта ж тыповы, надта ж беларускі.

Скарыстаны матэрыял амаль што агульнавядомы — але хто апрацаваў яго з беларускага гледзішча? Характэрна тое, як нас, беларусаў, займаюць дачыненні, скажам так, не зусім нашых класікаў. Тыповы і падлеткавы максімалізм аўтара, які некалькімі абзацамі ў канцы зрабіў свой твор лёгкай мішэнню для барацьбітоў з "беларускім нацыяналізмам". Пушкін, без сумневу, выключны паэт сусветнага значэння. Павага да генію ніяк не перашкаджае ўсведамляць ягоныя імперскія перакананні, захапляцца якімі зусім не абавязкова.

Больш складана з Міцкевічам. З артыкула добра відаць, што пра яго мы ведаем значна менш. Беларускі вобраз Міцкевіча фактычна не існуе. А шкада, бо ёсць падставы меркаваць, што збеларушчванне яго магло б быць плённым. Калісьці стварыць (дакладней, аднавіць) супярэчлівы вобраз вялікага навагрoдца спрабаваў слынны польскі публіцыст Т.Жэленьскі (Бой). Яму хацелася замест абраза мець твар рэальнай асобы. Сёння, у двухсотыя ўгодкі аўтара "Пана Тадэвуша", ёсць добрая нагода аднавіць гэтую працу — асабліва для беларусаў. Год ужо напалову прайшоў, а нічога неяк не чуваць. Так што вершаваным адлюстраваннем ліпеньскіх настрояў можна ўзяць радкі Міцкевічавага санета:

Супынімся! — як ціха! — чуць, што журавель курлыча,
Яго б не дапаў і сакаліны зрок,
Чуваць, як матыльку сцябло крыло казыча,
Як слізкі вуж траву зачэпіць незнарок.
Чакаю ў ціншы ўчуць, як хто з Літвы пакліча,
Каб голас хоць адтуль. Туга, прыспешвай крок!

**Д.Ж.**

## Дарагія сябры, суайчыннікі, а таксама грамадзяне іншых краін, каму неабыякавы лёс беларускай мовы і культуры !

Наша краіна перажывае нялёгкі час. Нацыянальнае адраджэнне, якое шырока разгарнулася ў канцы 80-х і ў пачатку 90-х гадоў, сустрэла моцны супраціў з боку антыбеларускіх сілаў. Масава зачыняюцца беларускія школы і класы, скарачаюцца беларускамоўныя выданні. Былі выпадкі, калі людзей на вуліцах арыштоўвалі за тое, што яны размаўлялі па-беларуску.

У гэтых умовах Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны з'яўляецца практычна адзінай грамадскай, непалітычнай арганізацыяй, якая бароніць усё беларускае.

Цяпер наша арганізацыя трапіла ў надзвычай цяжкае матэрыяльнае становішча. Спынена дзяржаўнае фінансаванне газеты "Наша слова", хутка ўжо год яна выходзіць за ахвяраванні сяброў ТБМ. Мы не можам знайсці сродкаў на выданне матэрыялаў навуковай канферэнцыі "Дыскрамінацыя беларускай мовы". Менскі абласны гаспадарчы суд выставіў судовыя санкцыі па даўгах за арэндную плату за памяшканне сядзібы ТБМ.

Звяртаемся да Вас з просьбай аказаць Таварыству разавую матэрыяльную падтрымку. Загадзя ўдзячныя прадпрыемствам, установам, арганізацыям, рухам і партыям, асобным грамадзянам, якія адгукнуцца на нашую просьбу. Спісы ахвярадаўцаў па іх жаданні будуць надрукаваныя.

Сакратарыят Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны.

Разліковы рахунак: **3015212330014 код 764** у Гардырэкцыі Белбізнесбанка г. Менска.

Паштовы адрас: 220095 Менск-95, паштовая скрынка № 34 (Трусаву Алегу, першаму намесніку старшыні Рады ТБМ).

**BELRUSAN CANADIAN COORDINATING COMMITTEE**
**КААРДЫНАЦЫЙНЫ КАМІТЭТ БЕЛАРУСАЎ КАНАДЫ**
**54 Mary St., Barrie, Ont. Canada, L4N 1T1. Tel/Fax: (705) 725-8654**

16 ліпеня, 1998 году.
Вышэйшаму гаспадарчаму суду РБ,
вул. Валадарскага 8, Менск, Беларусь.

Высокапаважаны Вышэйшы гаспадарчы суд РБ:

Сёння мы даведаліся, што 12 жніўня ў Менску Вышэйшы гаспадарчы суд РБ будзе судзіць Беларускую Мову. Будзе судзіць газету "Наша Ніва" за тое, што яна цэніць, як найбольшы скарб, сваю родную мову, ужываючы традыцыйны для яе беларускі правапіс.

Прысуд над Беларускай Мовай вынес савецкі рэжым у 1933 годзе, уводзячы варожую беларускасці, русіфікацыйную рэформу беларускага правапісу. Кожнаму ведама, што рэформа 1933 года была накіравана на русіфікацыю беларускай мовы, беларускай культуры, беларускага народа, ці інакш, накіравана на знішчэнне беларускай мовы, культуры, беларускае нацыі. Вынікі генацыднае палітыкі савецкага рэжыму сёння відавочныя. Найлепшым прыкладам ёсць суд над Беларускай Мовай у сувярэннай Рэспубліцы Беларусі !, суд над "Нашай Нівай" за тое, што яна выступае ў абарону перад генацыдам свае роднае мовы, за тое, што яна адмаўляецца ўжываць ворагамі накінуты зрусіфікаваны савецкі правапіс рэформы 1933 года.

Генацыд, знішчэнне мовы, культуры ёсць крымінальным злачынствам у абліччы ўсяе людскасці, усяго чалавецтва, бо знішчэнне аднае мовы, аднае культуры збядняе ўсю людскасць — усё чалавецтва.

Мы, грамадзяне Канады, згуртаваныя ў беларускіх арганізацыях пад "Амбрэляй" Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў Канады, асуджаем генацыдную палітыку ўрада РБ у адносінах да беларускай мовы і культуры.

Пратэстуем супраць дыскрымінацыі і здзеку над роднай Беларускай Мовай у Беларусі.

Дамагаемся пашаны і свабоды для Беларускае Мовы ў Беларусі!

Дамагаемся Боскага і людскога права для "Нашае Нівы" надалей пісаць адвечным, не скалечаным, не зрусіфікаваным рэформай 1933 г., правапісам.

Мы спадзяёмся, што ў Паважаных Суддзяў Вышэйшага гаспадарчага суда РБ б'ецца беларускае сэрца, якое не дапусціць здзеку над беларускай мовай, а дазволіць "Нашай Ніве" надалей пісаць беларускім правапісам, які называюць "Тарашкевіцай".

Жыве Беларусь ! Жыве Беларуская Мова !

Др. Раіса Жук-Грышкевіч
Старшыня

***PS / А ў галаве ўсцяж гучаць словы Янкі Купалы:***

На суды павялі яе звязанай
Сэрца вырваўшы з белых грудзей,
І судзіць давай — як там сказана
Ў гэтым хітрым законе людзей.

Абіралі суддзёй ночку цёмную,
Ночку — мачаху сумнай замлі,
Сведкай крыўда была векапомная,
Сон і заломы стражай былі.

Прыгавор прачыталі над беднаю,
Не спытаўшыся грэху, віны.
Гэй, хаўтурную песню пабедную
Над ёй спелі praметнай сыны ...

Накладалі ёй сковы сталёвыя,
Надзявалі жабрачы ўбор,
У намітку ўбіралі цярнёвую
Яе косу сатканую з зор ...

***З верша "СУДЫ"***

## Добры дзень, Наша слова !

Прачытаў дваццаць пяты нумар ад 1 ліпеня 98 года і хачу падзяліцца сваімі думкамі і меркаваннямі аб нашым жыцці- быцці. Калі параўнаць зместы "Нашага слова" да прыпынку друкавання і апошні нумар, то каханне-абарона ўжо састарэла. Як гавораць вайскоўцы — наступ найлепшы від абароны. Калі мы сёння ўжо больш тэарэтычна гаворым што Гітлер - Сталін самыя пачвартыя дыктатары, то на практыцы яскрава відно, што расейскі нацызм яшчэ больш вытанчаная, разнавіднасць нямецкага фашызму. Колькі ахвяр прынесла чалавецтва , каб утаймаваць фашыстоўскую Нямеччыну пад началам А.Гітлера? Колькі ахвяр запатрабуе расейскі нацызм?

Наша беларуская інтэлігенцыя была не гатова браць уладу, калі развальваўся Саюз. Шушкевіч і К праспалі незалежнасць, а сёння ўжо трэба ўсё пачынаць спачатку. Таму чарговае распяцце беларускай мовы трэба адрасаваць Шушкевічу, Шарэцкаму, Бураўкіну, Някляеву і інш. асобам, якія лічаць сябе, беларускімі беларусамі, а не асіміляванымі (расей-скамоўнымі). Як выказваўся класік бальшавізму : "Сярэдзіны няма, сацыялістычная ці буржуазная ідэалогія!" Думалі, што савецка-камуністычная наменклатура, якая завяла дзяржаву ў тупік, да развалу, так лёгка аддасць свае кармушкі. Яны зараз займелі абсалютную ўладу, што хачу — тое варачу. Масква для іх не ўказ ! Гэта толькі для "электарата" вядзецца мышыная вазня Лукашэнкі з Масквой, што плануюць спецслужбы Масквы. На самой справе Масквой усё схвачана яшчэ больш жорстка, чым гэта было да "незалежнасці". Лукашэнка гадаванец КГБ. Чумакоў, Сівакоў, Ермошын, Герасімаў, Шымаў, Стражанаў і спіс можна доўжыць. Каланіяльная імперыя развальваецца, але на сёняшні дзень беларусы сталі закладнікамі адраджэння ў трэці раз Расейскай імперыі. Імперскім сілам на Беларусі няма чаго губляць, як таму пралетарыяту. Таму яны так, цынічна вынішчваюць беларускасць і тут слова не дапаможа, а згуртаванасць і сіла. Фашызм прызнае толькі сілу, таму калі беларусы хочуць быць беларусамі і не асімілявацца, то беларускай інтэлігенцыі трэба гуртаваць найперш адукаваных людзей, якім лягчэй раскрыць вочы на ўсе палітычныя хітрыкі рэжыму па ўтрыманні ўлады. Час працуе аднолькава, як на расейскі нацызм, так і беларускі нацыяналізм. Першыя пры ўладзе і пры грашах, а другія толькі з ідэяй. Вось і задача нацыяналістаў пашыраць беларускасць у неспрыяльных умовах легальна і падпольна. Мы, як камуністы, павінны павылазіць з акопаў. Чалавецтва за сваю гісторыю шмат чаго перацярпела, перажыло і самыя адукаваныя беларусы павінны выкрышталізаваць досвед чалавецтва канкрэтна для нашых умоваў, каб "узброіць" свядомых беларусаў "зброяй" да незалежнасці беларускай. Таму для беларускай эліты на парадку дня -- "казармавы стан".

*07.07.1998 г.*
***(Подпіс адсутнічае)***

## Паход-летнік "Шляхамі Міцкевіча"



З 17 па 26 ліпеня Лідская рада ТБМ і Цэнтр дзіцячага турызму правялі паход - летнік "Шляхамі Міцкевіча". Дзеці наведалі Навагрудак, Свіцязь, Завоссе, Туганавічы і іншыя памятныя месцы. Па дарозе ўдзельнікі паходу распаўсюджвалі беларускую літаратуру, касеты з беларускімі песнямі і музыкай,

### Паважаная рэдакцыя !

Кінеце, калі ласка, кліч да суполак ТБМ, каб кожная суполка з 1-га верасня на 4 месяцы выпісала на бліжэйшую (любую) школу (школы) газету "Наша слова". Наша суполка ў баку ад гэтай справы стаяць не будзе.

**Старшыня суполкі ТБМ імя Ф.Скарыны ВА Гродпаэнерга**
**А.І.Місцюкевіч.**

## "Пад небам Крыма"




У Менску пад такім загалоўкам пабачыла свет кніга паэзіі Алёны Шарэпа-Лапіцкай. Кніга прысвечана вялікаму беларускаму паэту Максіму Багдановічу.

Аўтар спрабуе дапісаць тое, чаго не паспеў зрабіць вялікі Максім. Што атрымалася? Чытайце і ацэньвайце.

## Лідскае ТБМ сягае да Менска

3 жніўня адбылося чарговае паседжанне Лідскай рады ТБМ імя Францішка Скарыны. Рада заслухала справаздачу старшыні Лявона Анацкі за месяц, зацвердзіла графік сустрэч жыхароў горада і раёна з знакамітымі дзеячамі беларускай культуры і літаратуры (усяго 11 сустрэч да Новага года). Рада пастанавіла аднавіць фатакартку на помніку беларускаму і ў пэўнай ступені лідскаму паэту Валянціну Таўлаю на Менскіх могілках. **Рада пастанавіла падпісаць на верасень месяц 100 асобнікаў газеты "Наша слова" для ўсіх школ і бібліятэк горада Ліды і Лідскага раёна.**





# 10-е ПАЛОМНІЦТВА ДА БЕЛАРУСКАГА ПАМЯТНАГА КРЫЖА

У Канадзе, у прошчы паўночна-амерыканскіх пакутнікаў у Мідляндзе, ёсць Беларусі памятны копмлекс, а гэта: Беларускі памятны Крыж, узнесены ў 1988 годзе для адзначэння тысячагоддзя хрысціянства ў Беларусі, і помнік "Памяці ахвяраў камуністычнага тэрору ў Беларусі", асвечаны ў 1996 годзе.

У суботу, 20 чэрвеня, да Беларускага памятнага комплексу ў прошчы ў Мідляндзе адбылося 10-е, юбілейнае паломніцтва, якім мы ўрачыста адзначылі 10-я ўгодкі пабудовы і асвячэння Беларускага Крыжа і 40-я ўгодкі святарства Дастойнага а.Аляксандра Надсана, Апостальскага Візітатара для беларусаў, які ў свой час асвяціў Беларускі Крыж ды помнік Ахвярам камуністычнага тэрору ў Беларусі.

Багаслужбу на беларускай мове, з малымі ўстаўкамі ангельскай, што пачалася ў 10.30 раніцы, адпраўляў а.А.Надсан з Лондана, ў саслужэнні а. Бенедыкта Алексейчука з Ст. Катэрынса, ды а.Джэймса Кэлі з Бэры, Канады. Святочнае чырвонае аблачэнне ўсіх святароў падкрэслівала ўрачыстасць Багаслужбы і падзеі.

Маліліся мы за здароўе і намыснае дзейнае жыццё юбіляра, Дастойнага Айца Аляксандра Надсана. Аддавалі пашану памяці кіраўніка пабудовы Беларускага Крыжа Вінцэнта Жук-Грышкевіча, паэткі Наталлі Арсенневай,кіраўніка прошчы а.Джэймса Фарэла, Янкі Сурвілы ды Морыса Мэрдака.

У казанні а.Надсан гаварыў пра значэнне Крыжа. На Крыжы Ісус Хрыстос памёр за нас. Праз крыжовую смерць Хрыстос хоча нас да сябе прыгарнуць, даць нам збаўленне і жыццё вечнае. Праз Крыж Хрыстос кліча нас да сябе: Прыйдзіце ўсе верныя! Гаварыў а. Надсан і пра значэнне пабудовы Беларускага Крыжа, вымоўнага сведкі перад Богам і нашчадкамі, што жыве на свеце Беларушчына, што жыве Беларусь.

І Крыж ёсць ані праваслаўны, ані каталіцкі. Крыж ёсць КРЫЖ! — гаварыў а.Надсан.

Пасля Багаслужбы працэсія з беларускімі бел-чырвона-белымі сцягамі і Акафістам да Найсвяцейшай Багародзіцы падымалася на ўзгорак да Беларускага памятнага комплексу. Здалёк развіваліся на ветры канадыйскі і горды бел-чырвона-белы беларускі сцягі.

Беларускі Крыж, у падставе якога цвітуць кветкі, ахінаў беларускім звычаем, Слуцкі пояс, дар Крыжу ў 1994 годзе ад паломніцы з Менска Ганны Сурмач. Манумент Пакутнікам Беларусі пакрываў, ўзорам тканы, ручнік, падарунак тае-ж паломніцы з Менска. У падножжа помніка агнём вечнага жыцця гарэлі ў чырвоных лямпёнах свечкі. Паломнікі злажылі памяці Пакутнікаў Беларусі масу кветак, некаторыя пучкі былі з надпісамі на картках — паіменна каму і ад каго. А вакол усяго Беларускага памятнага комплексу з урачыстай павагай цягнуліся ў неба гонкія сосны.

Перад Крыжам і помнікам Пакутнікам Беларусі затрымаліся святары. Айцец Надсан адпраўляў Малебен за Беларускі Народ. Стаўшы на калені, святары і паломнікі ўзносілі свае маленні да Бога: ***"Зрабі свабоднай, зрабі шчаслівай краіну нашу і наш народ!"***

Малебен закончыўся пачуццёвым, узнёслым спевам "Магутны Божа!".Словы гэтага манументальнага гімна аўтарства Наталлі Арсенневай увекавечаны і на мемарыяльнай таблiцы на падставе Крыжа.

Агульная фатаграфія перад Беларускім памятным комплексам закончыла малебную частку 10-га паломніцтва.

У цені дрэў за агульным сталом усе разам папалуднавалі.

Затым Сход паломнікаў, што адбыўся ў кватэры Каардынатара паломніцтва ў Бэры, пачаўся застольнай бяседай. Адкрыла яго каардынатар Раіса Жук-Грышкевіч. Прывітала Дастойных Айцоў, і брата Андрэя з кляштара святых Антона і Тэадосія ў Ст.Катэрынсе, Канадзе, Старшыню Рады БНР Івонку Сурвілу з Атавы, Канады, Дырэктара Фундацыі Пётры Крэчаўскага сп.Францішa Бартуля з Нью-Ёрка, Кацярыну Вініцкую з Лос-Анжалеса, Нікадэма Жызнеўскага з Чыкага, старшыню Згуртавання Беларусаў Канады Міколу Ганько і Марыю Ганько з Таронта, заступніка старшыні ЗБК, Рамана Кардонскага з Таронта, Віктара Касцюкевіча з Пэры Саўнд-Слуцка, Валянціну Семашка з Бэры, ды ўсіх іншых паломнікаў. Дзякавала ўсім, хто спрычыніўся да пабудовы Беларускага Крыжа, помніка "Памяці Ахвяр камуністычнага тэрору ў Беларусі", ды ўсіх дзесяцёх паломніцтваў.

Тады яна прадставіла юбіляра, Дастойнага айца Аляксандра Надсана, Апостальскага Візітатара да беларусаў ; кіраўніка каталіцкае місіі ў Лондане, Англіі, Дырэктара Беларускай Бібліятэкі і Музея імя Францішка Скарыны ў Лондане, Англіі; Заснавальніка і Дырэктара Фонда і Камітэта Дапамогі ахвярам радыяцыі ў Беларусі, які першы ў 1990 годзе наведаў Беларусь і ахвяраў Чарнобыля з лекамі і медыцынскімі прыладамі, і пасля яшчэ дзевяць разоў зрабіў такое дабрачыннае падарожжа ў Беларусь. Айцец Надсан у маладосці студыяваў матэматыку ў Лондане, Англіі, а пасля тэалогію і філасофію ў Рыме, Італіі. Апрача беларускай мовы валодае дасканала ангельскай, французскай і італьянскай. Сябра Англа-Беларускага Таварыства, аўтар шматлікіх навуковых артыкулаў ў JOURNAL OF BELARUSAN STAUDIES, і "Божым шляхам", аўтар "Кароткага Катэхізму Хрысьціянскае Навукі. Для Беларусаў Католікаў", кнігі "Сьвяты Кірыла Тураўскі", аўтар перакладу на беларускую мову амаль усіх літургічных тэкстаў. Цяпер ягонай мэтай і руплівасцю ёсць даць моладзі з Беларусі магчымасць студыяваць у Лондане тэалогію і філасофію, каб прыгатаўляць святарскія кадры для Беларусі. Як Дырэктар Беларускае Бібліятэкі імя Ф.Скарыны, у Лондане — шчаслівы собснік дзевяцёх арыгінальных Пражскага выдання кніг Скарыны!

Ад імя паломнікаў, прысутных і непрысутных вернікаў і прыяцеляў злажыла юбіляру прывітанні і найлепшыя пажаданні добрага здароў'я, блаславёнага духовага супакою, і багатых плёнаў у ягонай далейшай самаахвярнай працы на службе Богу і Беларусі. Сто Год!

Прамаўляў і ўручыў юбіляру падарунак: вялікі абраз Св. Ефрасінні Полацкай — айцец Бенедыкт, што быў два гады ў Полацку.

Дырэктар Фундацыі Пётры Крэчаўскага, Францішак Бартуль з Нью-Ёрку падзяліўся ўспамінамі з 40-вых гадоў ў Лондане, Англіі, калі яны з айцом Надсанам, ды кіраўніком пабудовы Беларускага Крыжа ўжо нябожчыкам Вінцэнтам Жук-Грышкевічам арганізавалі першую пасля вайны за мяжой беларускую арганізацыю - Згуртаванне беларусаў у Вялікай Брытаніі. Ды з сардэчнымі прывітаннямі і найлепшымі пажаданнямі юбіляру, уручыў яму дар ад беларускага грамадства ў суме 2,000.00 ам. дал і 340 кан. дал., як падтрымку на праводжанне айцом Надсанам далейшае, самаахвярнае працы на ніве рэлігійнай, грамадскай і навуковай.

Затым прамаўлялі: Старшыня Рады БНР, Івонка Сурвіла, старшыня ЗБК Мікола Ганько, Нікадэм Жызнеўскі вітаў юбіляра ад сябе і ад беларускай грамадскасці Чыкага. Нарэшце змястоўны, інфармоўны даклад з гісторыі і сучаснай сітуацыі беларускай грэка-каталіцкай царквы меў сам юбіляр Дастойны Айцец Аляксандр Надсан.

Была гэта субота. Ды сход паломнікаў, гутаркі і дыскусіі прадаўжаліся аж да панядзелка. У нядзелю пасля беларускай Багаслужбы ды прагулкі над возерам Сімко, адбыўся ў гонар юбіляра, Дастойнага Айца Аляксандра Надсана, урачысты з прамовамі абед.

Кожнай ранічкі перад абразамі Ўкрыжаваннем і св.Ефрасінні Полацкай а. Аляксандр Надсан адпраўляў Св. Літургію. Апостала чытаў Францішак Бартуль.

З пажаданнем: Дай Божа за год прычакаці і да Беларускага Крыжа ў паломніцтве прыпасці — паломнікі раз'ехаліся па далёкіх гарадах і краінах.

ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

Раіса Жук-Грышкевіч,
Каардынатар
Паломніцтва.



Наталля Арсеннева

**КРЫЖ:**

Як вокам скінуць —
сцяг пушчаў сініх . . .
За пушчай далеч,
яшчэ сіней . . .
А тут , на ўзвышшы,
стаіць над намі
Наш Крыж
прыгожы, маўляў у сне . . .
Шмат чулі свету
крыжы маленняў,
Шмат просьбаў,
выкліканых бядой.
Прыйшлі і мы ў
прошчу сагнуць калені,
Свяціць не нечы
ўжо крыж, а свой.

"Зрабі свабоднай,
зрабі шчаслівай
Краіну нашу",
маліўся хор,
І ўторыў натоўп,
і спелай нівай
Хіліўся, ветру на перакор.

А вецер дужаў,
кудысь аблокі
Зусім па-восеньску
ўжо плылі.
Маўчала Прошча,
унізе ж далёка
Сінелі зараснікі й палі.

— "Магутны Божа",
без слоў прасілі
Мы ўсе,
а рукі ўзняўшы ўзвыш
Стаяў нязрушна
на ўзгорку схіле
Ён, гэткі родны
ўжо сэрцу Крыж.

Тут — дождж імгнення
каменне сплявіў,
Рассыпаў кроплі ў траве,
у лісці . . .
Няйначай —
і Нехта дзесь там, над намі,
Наш Крыж вадою
святой хрысціў.

***Прошча, 5 верасня, 1988 год.***

# Беларусь і беларуская мова на Інтэрнэце

**НАВІНКІ ІНТЭРНЭТУ**

З гэтага нумару мы будзем сяды-тады інфармаваць чытачоў пра ўсё новае, што адбываецца ў беларускай "павуцінцы" — на Інтэрнэце. Леташні расейскамоўны варыянт ведамага часопіса PC World засведчыў, што беларускіх старонак ужо нямала: ён сабраў багатую калекцыю, якую можна агледзець па адрасе: **http: // w w w. nsys.minsk.by/pcworld/ links.html**. Гэта найбольшы на сёння збор. А тым часам з'яўляюцца і новыя.

Як прыклад — іспанамоўная старонка П.Эскабара **Amigos de Bielorussia (http: //www.geocities.com/ Capitol Hill/9854/index.html)**. Яна пакуль не зусім дасканалая тэхнічна, ненатуральным выглядае змяшчэнне побач Пагоні і лукашэнкаўскага сцяга, але сам прарыў у іспанамоўны свет можна толькі вітаць. Палітычная свядомасць яшчэ прыйдзе — і ў гэтым могуць дапамагчы самі чытачы.

Яшчэ адна новая старонка — 16-гадовага Іллі з Ванкуверу **(http:/www3.bc .sympatico.ca/ilia/)**. Ён змясціў інфармацыю з геаграфіі, палітыкі, культуры Беларусі.

Старонка БНФ ужо добра вядомая карыстальнікам кампутараў, але звярніце ўвагу — яна набыла новы адрас: **http://pages.prodigy. com/belarus/bpf. htm**.

Па-ранейшаму адной з найбуйнейшых старонак застаецца **Virtual Guide (http: / /139.146/226.23/ Belarus. html)**. Аб'яднаўшы некалькі чалавек — сурэдактараў, ён па-ранейшаму шукае новых кантактаў. Напрыканцы года да віртуальнай рэдкалегіі далучыўся новы сябра — Андрусь Жвір, які стварыў **"Беларускую палічку" (http:// www.wu-wien.ac.at/ groups/belarus/)**. Ужо зараз там можна прачытаць вершы Адама Глёбуса і кнігу Стаха Дзедзіча "Эпілог", "Матар'ялы 'Архіву Найноўшае Гісторыі': Кроніка дэмакратычнага руху ў Беларусі 1953 - 1988". У планах: Ігнат Абдзіраловіч "Адвечным Шляхам", Мікола Ермаловіч "Па слядах аднаго міфа", Генадзь Сагановіч "Невядомая вайна: 1654-1667", "З гісторыяй на "Вы". Публіцыстычныя артыкулы (выпускі 1, 2), Юрка Віцьбіч "Антыбальшавіцкія паўстанні і партызанская барацьба на Беларусі".

Цікавай, як тэхнічна, гэтак і сваёй "апалітычнасцю", уяўляецца і беларускамоўная старонка, прысвечаная анімацыйнаму фільму **"Кароль Леў" (http:// 194.226.125.34/ Entertainment/Hakuna Matata/).**

* * *

З'явілася новая старонка, прысвечаная Віцебску **(http:// w w w. belpak. vitebsk/ by)**. Пра стары і новы горад, Марка Шагала, часопіс Беларускага аб'яднання гэбрайскіх арганізацыяў "Мішпоха". Вось каб-жа толькі менш было прарасейшчыны!.

**"Беларуская палічка", (http:// w w w. wu-wien/ac.at/ groups/belarus)**, пабагацела на новыя кнігі: Славамір Адамовіч "Каханьне пад акупацыяй" (электронная вэрсія зборніка змяшчае таксама вершы, што не патрапілі на ягоныя старонкі, у тым ліку такія знакамітыя, як "Убить президента", "Рукі назад!" ды іншыя) і Ян Чачот "Выбраныя творы" з серыі "Беларускі кнігазбор".

Старонка з газетамі "Имя", "Белорусская деловая газета", "Белорусский рынок" ды іншымі змяніла адрас: **http://press/net/by.**

Шмат каго можна зацікавіць старонка Беларускай Бібліятэчнай Асацыяцыі **(http://kolas.bas-net. by)**.Яна вельмі інфарматыўная. Дарэчы, карыстальнікі Інтэрнэту лёгка могуць спраўдзіць наяўнасць той ці іншай беларускай кнігі ў Нью-Ёрскай Публічнай Бібліятэцы. Яе каталог — на **http://catnyp. nypl/org/search/.**

Таксама мы вырашылі змяшчаць электронныя адрасы беларускіх установаў, арганізацыяў, выданняў на эміграцыі. Сёння падаем **e-mail "Царкоўнага пасланца": delautoc@ ix.net-com. com, Belarusian Review: BelReview@ aol.com.**

Не з новых старонак, але вельмі вартасных — беларуская старонка **"Радыё Свабоды" (http:// w w w.rwerl.org/bd/be/index. html).** Тут знойдзеце навіны з газеты "Свабода" на беларускай і ангельскай мовах, а таксама штодзень а 3-й гадзіне можаце слухаць навіны, заладаваўшы адпаведную праграму — **Real Audio.**

Самая прыемная навіна — з'явілася АНТЫЛУКАШЭНКАЎСКАЯ старонка **( http: // w w w / aubg. bg/cj/~vik960/belarus/lukash. htm) на Free Belarus On-Line.** Яна называецца **The Dossier on: A.G. Lukashenko. President of the Republik of Belarus 1994- XXXX' Known nicknames: Luka, Lukasz, Diktator,Father-of-the-nation, President-For-Life, Father, Bac'ka, Him, Lysina z naczosam, etc...** З цалкам сур'ёзнымі матар'яламі суседнічаюць нестандартныя здымкі.

* * *

Напэўна, самая галоўная заваёва беларускай віртуальнай прасторы апошняга часу — афіцыйная старонка **Рады БНР (http:// www.bnr.org)**. На Інтэрнэце і раней былі старонкі, прысвечаныя гісторыі БНР **(http://www.thing.net/~ap/ belarus/bdr.html)**, Пётру Крэчаўскаму **(http://www. thing.net/~ap/belarus/ writers/ krec. html)**, Васілю Захарку **((http://www.thing.net/~ap/ belarus/ witers/ zacharka. html))**. Але новая старонка мае адную істотную адметнасць — яна адлюстроўвае сённяшні стан Рады БНР, працу Прэзыдыюма, змяшчае бягучыя дакументы. Старонка падтрымліваецца ў дзвюх мовах — беларускай і ангельскай, прычым матарыялы далёка не заўсёды дублююца. Сярод змешчанага — спіс сяброў Прэзыдыюма Рады, Устаўныя граматы, Статут Рады БНР, рэзалюцыі, прынятыя за апошні час, адрасы для кантактаў.

Таксама са свежага старонка Анатоля Цітова **(http://www.o-c-s.com/belarus /Titov.htm)**. Калі быць больш дакладным — гэта рэклама апошняй кнігі вядомага гісторыка "Геральдыка беларускіх местаў", выдадзеная ў лютым 1998 г. Каштуе яна $ 55. На беларускай мове, з каляровымі ілюстрацыямі, 429 бачын.

Цікавыя матарыялы знайшлі прытулак на яшчэ адной прыватнай старонцы — Сяргея Палевікова **(http:/ /www.ruf.rice.edu/~sergei/)**, раім зазірнуць.

**ПРЫЕМНАСЦЬ УЛАДАЛЬНІКАМ СКАНЕРАЎ**

Днямі пачаўся продаж новай праграмы распазнавання тэкстаў **Universal OCR** ( на здымку). Яна




дазваляе працаваць з 33-ма мовамі, сярод якіх ёсць і беларуская ! Скончыліся пакуты беларускіх уладальнікаў сканераў, што для расчытвання тэкстаў, пісаных па-беларуску, змушаныя былі карыстацца праграмамі, прызначанымі для распазнавання расейскае кірыліцы.

Новая праграма будзе вельмі прыдатная і для навукоўцаў-лінгвістаў, найперш славістаў, бо яны можа працаваць з амаль усімі славянскімі мовамі, а таксама з грэцкай, усімі скандынаўскімі і цэнтральна-ўсходнееўрапейскімі, летувійскай, эстонскай і г.д.

Кошт прадукту $ 89.99.



***Мінула ўжо дзесяць месяцаў пасля першага з'езда настаўнікаў, а памяць яшчэ і яшчэ вяртае мяне ў канцэртную залу "Менск", дзе на працягу двух кастрычніцкіх дзён ішло абмеркаванне становішча і перспектыў беларускага школьніцтва. Не сказаў бы, што было там вельмі ўжо сумна слухаць загаддзя вызначаных прамоўцаў, што зусім не кранала атмасфера пэўнай урачыстасці і святочнасці, што не цяплела на сэрцы ад згадак уласных школьных гадоў. Але засталося ў душы і торгае, як вярэдлівая стрэмка, неадчэпнае адчуванне незадаволенасці і трывогі.***

# КАБ ПАЧУЛІ!..

І даклад міністра В.Стражава быў дзелавы і спакойны, і дакументы прапаноўваліся дастаткова надзённыя і канкрэтныя, і на трыбуне былі прадстаўлены ўсе вобласці краіны, і афіцыйных глупстваў, як бывала раней, у застойныя часы, амаль не гучала, а вось не хоча рука пісаць, што адбылася прыкметная падзея ў духоўным жыцці Беларусі. Не таму нават, што ва ўсім была відна жорсткая заангажаванасць, не таму, што зноў — і недарэчы — грымела барабанамі напісанае па канонах хрушчоўскіх партыйных з'ездаў прывітанне школьнікаў, складзенае, як гэта было відавочна, не надта ўмелымі трубадурамі піянерскага руху, не таму, што зала бяздумна пляскала некаторым злосным эмацыянальным "пераборам", а больш за ўсё і перш за ўсё таму, што, на жаль, мала было на з'ездзе аналітычнасці, роздуму, суаднесенасці з даўняй і блізкай гісторыяй, урэшце — прафесійнай споведзі. Усё хутчэй нагадвала вытворчую нараду, дзе асноўная ўвага лагічна ўдзялялася пытанням фінансавым і гаспадарчым, праблемам арганізацыйным і спецыяльным. Ці не таму найчасцей слова бралі большыя ці меншыя педагагічныя кіраўнікі: загадчыкі раёна і дзіцячага садзіка, дырэктары школы і інстытута ўдасканалення, рэктар універсітэта ... І калі раптам выходзілі на трыбуну так званыя "радавыя" — настаўнік матэматыкі 168-й менскай школы Ул.Мартысюк і настаўнік гісторыі са Смалявіцкага раёна А.Шаўлюкевіч, — адразу мяняўся тон размовы і, акрамя дасведчанасці і заклапочанасці, гучалі яшчэ востры боль за сённяшні духоўны стан грамадства, шчымлівая занепакоеннасць будучыняй наступных пакаленняў, якія павінны быць лепшымі і мудрэйшымі за нас. Малавата было такіх прамоў і такіх прамоўцаў. А так хацелася (ва ўсякім разе — мне). каб мілыя нашы настаўнікі высока ўзняліся над запушчаным школьным палеткам, на які штодзённа з надзеяй кідаюць яны зярняты разумнага, добрага, вечнага, агледзелі яго строга і прыдзірліва і вызначылі, дзе і якую зрабіць "прапалку", дзе і "пераараць" забытыя, здзірванелыя ўзмежкі! Не змаглі, а можа не захацелі, а можа не для гэтага клікалі іх у сталіцу мажныя бацькі беларускай педагогікі...

Неўразуменне выклікала ў мяне тое, што ні ў шчырых абмеркаваннях, ні ў шумных кулуарах не сустрэў я ніводнага беларускага пісьменніка (Уладзімір Ліпскі і я прадстаўлялі на з'ездзе не літаратуру, а Дзіцячы фонд і Таварыства беларускай мовы). Было проста ніякавата не бачыць у агромністай зале тых, з чым мастацкім словам заслужана звязваецца выхаванне любові да Радзімы, адчуванне непаўторнай прыгажосці роднай прыроды, разуменне свята, кахання і сяброўства, асалоды матчынай мовы. Уяўляю, якой рэдкай радасцю была б для пасланцаў з Палесся ці Прыдзвіння, хай і выпадковая, кароткая, гутарка з "жывымі" Янкам Брылём, Васілём Быкавым, Рыгорам Барадуліным, Іванам Шамякіным, Нілам Гілевічам! А хіба не хацелася і з трыбуны паслухаць іхнія развагі і парады, іхнія ацэнкі і прадказанні ў пару сённяшняй грамадскай напружанасці і сумятні? Няўжо больш цікава і карысна для іх было шукаць хоць нейкага сэнсу ў пафаснай дэмагогіі юнага правадыра БПСМ Ус.Янчэўскага ці ў блытаных заклінаннях прэзідэнта славутага "Атланта" Л.Калугіна?.. Ды шматдасведчаныя арганізатары з'езда не палічылі патрэбным запрашаць на свой гучна абвешчаны форум майстроў слова, з тых твораў, дарэчы, складзены амаль усе школьныя хрэстаматыі. Што ж, як кажуць, ім відней. А я, між тым, добра памятаю, якой агульнасаюзнай з'явай у свой час стала выступленне Аляксандра Твардоўскага на Усесаюзным з'ездзе настаўнікаў, як доўга потым звярталіся да яго і ў навуковых даследаваннях, і ў публіцыстычных артыкулах прызнаныя нашчадкі і паслядоўнікі Ушынскага. Думка ж выдатнага паэта аб тым, што родная літаратура "мае ключавое значэнне ва ўсім працэсе навучання і выхавання", што яна "фармуе чалавечую свядомасць, светаразуменне, асобу чалавека ў пару яго найбольшай успрымальнасці, найбольшай уражлівасці і нават проста памятлівасці", па-мойму, была б — не як цытата, а як выснова — вельмі да месца на з'ездзе, дзе пра літаратуру чамусьці практычна не было ўспомнена наогул ... Дай Божа, каб гэта была толькі прыкрая выпадковасць ці звычайны чыноўніцкі недагляд!..

Як заканамернасць успрыняў я ў гэтай сітуацыі дэманстратыўнае замоўчванне на з'ездзе балючых праблем, звязаных з месцам і роллю беларускай мовы ў сённяшняй школе. Нельга сказаць, што аб іх зусім не гаварылася, але яны толькі подбегам узгадваліся, так сказаць, абазначаліся — без даследвання сацыяльных і палітычных каранёў негатыўных працэсаў, без прасочвання прычын і механізмаў паўсюднага выцяснення роднага слова з практыкі навучання і выхавання дзетак. Быццам бы і пагаджаліся некаторыя прамоўцы, што адбываецца штосьці ненармальнае, але тут жа з палахлівай аглядкай ківалі на "аб'ектыўныя працэсы" і выяўленую на травеньскім рэферэндуме 1995 года волю "большасці насельніцтва". А горкая ж рачаіснасць, па-мойму, патрабавала зусім іншых слоў і куды гарчэйшых эмоцый.

Калі яшчэ нядаўна ў Менску было 130 школ са статусам беларускамоўных, дык зараз іх засталося 17. За тры апошнія гады, па падліках актывістаў Таварыства беларускай мовы, на расейскую мову навучання пераведзена каля 27 тысяч юных менчан, а гэта значыць — у сталіцы зінікла тысяча беларускіх класаў. У Савецкім раёне няма ніводнай беларускамоўнай школы, а ў першы клас увосень мінулага года тут прынялі ўсяго 32 вучні. На радзіме выдатнага пісьменніка, усенародна любімага Уладзіміра Караткевіча няма ніводнага беларускамоўнага вучня ў першым класе ... І гэта — не сумныя выключэнні, гэта, на жаль, тыповая з'ява ў нашай сувярэннай дзяржаве.

Госць з суседняй Украіны М.Лукашэвіч, дарэчы, паведаміў з трыбуны з'езда, што ў іх 65 працэнтаў школ — украінскія і ва ўкраінскія класы ў гэтым навучальным годзе прыйшоў 71 працэнт усіх першакласнікаў ... У прэзідыуме хутчэй за ўсё абыякава прапусцілі гэтую інфармацыю міма закладзеных інтэграцыйнай ватай вушэй схіленыя над салíднымі стосамі неадкладных папер, перапоўненыя ўласнай значнасцю і занятасцю прадстаўнікі ўладных структур, а было над чым задумацца і ім, і ўраду, і Міністэрству адукацыі, і сацыёлагам з палітолагамі ...

Рада Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны афіцыйна прасіла арганізатараў настаўніцкага з'езда даць і мне магчымасць выступіць, але такое ласкі я не дачакаўся. Скажу шчыра, мяне гэта ніколькі не здзівіла, бо лёгка было здагадацца, пра што я буду гаварыць, як і відавочныя для ўсіх практычна непрыхаваныя абыякавыя, а то і грэблівыя дзяржаўныя адносіны да матчынай нашай мовы. А я, прынамсі, не збіраўся адкрываць Амерыку ці клікаць на барыкады. Я проста хацеў падзяліцца з блізкімі людзьмі, якімі заўсёды лічыў настаўнікаў, нялёгкімі сваімі развагамі і практычнымі прапановамі.



Генадзь Бураўкін з актывам ТБМ Ліды

Што я меў намер сказаць?

Па-першае, я хацеў заклікаць вышэйшае кіраўніцтва Беларусі адпаведным дзяржаўным актам — дэкрэтам прэзідэнта і рашэннем парламента або ўрада — ацаніць нарэшце становішча беларускай мовы ў жыцці краіны, прызнаць яго па меншай меры ненармальным і акрэсліць канкрэтныя захады па кардынальнаму выпраўленню сітуацыі. Для гэтага, на маю думку, неабходна запатрабаваць ад усіх падраздзяленняў "вертыкалі", ад усіх чыноўнікаў у цэнтры і ў рэгіёнах забяспечыць, як мінімум, рэальную роўнасць беларускай і расейскай моў ва ўсіх сферах дзейнасці грамадства — ад справаводства і заканадаўчай творчасці да навуковых даследванняў і бытавога абслугоўвання (як, прынамсі, і патрабуюць вынікі рэферэндуму). І асабісты прыклад у гэтым павінны паказаць найвышэйшыя асобы дзяржавы. Першым жа практычным крокам мне бачыцца ўвядзенне ўжо з гэтага года патрабавання свабоднага валодання дзвюма дзяржаўнымі мовамі ўсіх дзяржаўных службоўцаў, абавязковых уступных экзаменаў ва ўсе вышэйшыя і сярэднія спецыяльныя навучальныя ўстановы па беларускай і расейскай мовах, даплаты выкладчыкам школ, тэхнікумаў і ВНУ, якія чытаюць свае дысцыпліны па-беларуску. Гэта, безумоўна, запатрабуе сродкаў, але хіба зберажэнне душы народа, якой з'яўляецца яго мова, — менш значная патрэба, чым развіццё спартыўных баз і правядзенне фестываляў і святаў?.

Востра неабходна ў самыя сціслыя тэрміны распрацаваць і зацвердзіць жорсткую дзяржаўную праграму па падрыхтоўцы кадраў і падручнікаў для беларускіх школ.

Адным з самых сур'ёзных і найчасцей агучваных пры расфармаванні беларускамоўных класаў аргументаў прыводзіцца сапраўды відавочны факт: не хапае настаўнікаў, якія маглі б выкладаць па-беларуску, не хапае беларускіх падручнікаў. Зняць гэтую застарэлую праблему — святы абавязак дзяржавы, абавязак тых вучылішчаў, універсітэтаў, метадычных цэнтраў і выдавецтваў, якія фінансуе і кантралюе дзяржава. Калі ў нашай роднай Рэспубліцы Беларусь сапраўды ёсць нацыянальная палітыка і калі яна не антыбеларуская, зрабіць гэта можна і трэба. Бо што ж дзіўнага ў скарачэнні нацыянальных школ у Менску, калі толькі за апошні час, напрыклад, у беларускія школы №№ 198, 37 дырэктарамі прызначаны людзі, якія не карыстаюцца беларускай мовай, а дырэктар школы № 202 Р.Саўчук не саромеецца бацькам чацвёртакласнікаў адкрыта гаварыць,што калі яны перавядуць сваіх дзяцей на расейскую мову навучання, ім будуць створаны найлепшыя ўмовы, а калі застануцца вернымі матчынай мове, — добрай якасці вучобы не будзе?!

Я разумею, што вялікія, складаныя справы не вырашаюцца наскокам, аднымі адміністрацыйнымі мерамі, што патрэбны час, цярпенне і будзённая карпатлівая праца ўсіх грамадзян. Але ж хоць нешта трэба рабіць, а не глядзець абыякава, як ціха канае адна з самых мілагучных і багатых славянскіх моў. У сённяшніх айчынных абставінах мне здаецца лагічным, у прыватнасці, перагляд навучальных праграм.

Штодзённая практыка адназначна сведчыць, што расейская мова непадзельна пануе ў школьных класах — не толькі на ўроках расейскай мовы і літаратуры, але і на занятках па фізіцы, хіміі, матэматыцы, біялогіі. Дык вось, каб ураўняць правы беларускай мовы, каб яна гучала ў навучальным працэсе столькі ж, як і расейская, варта значна павялічыць гадзіны, адведзеныя на выкладанне беларускай мовы і літаратуры, гісторыі Беларусі. Калі ўжо нашы дзеці не маюць магчымасці засвойваць на роднай мове асновы алгебры, астраноміі, экалогіі, дык хай дасканала ўведаюць геняў і прарокаў Бацькаўшчыны, шырока пазнаёмяцца з усімі скарбамі нашага прыгожага пісьменства. Хай падрабязна вывучаць і летапісы Полацкага княства, і жыццё Кірылы Тураўскага, і рэвалюцыйную спадчыну Кастуся Каліноўскага, і ахвярную працу братоў Луцкевічаў, і дзяржаўную дзейнасць Аляксандра Чарвякова ... Хай запомняць пявучыя радкі не толькі Янкі Купалы і Якуба Коласа, Максіма Танка і Пімена Панчанкі, але і Аляксея Пысіна, Анатоля Вялюгіна, Васіля Віткі, Еўдакіі Лось, Сцяпана Гаўрусёва, Яўгеніі Янішчыц ... Хай у доўгую жыццёвую дарогу возьмуць раманы і аповесці не толькі Кузьмы Чорнага і Максіма Гарэцкага, Івана Мележа і Уладзіміра Караткевіча, але і Міхася Зарэцкага, Андрэя Мрыя, Аркадзя Чарнышэвіча, Міколы Лобана, Яна Скрыгана, Міхася Стральцова, Івана Чыгрынава, Барыса Сачанкі. Як гэта ўсё ўзбагаціць і ўзвысіць маладыя душы, дапаможа ім прасякнуцца пачуццём любові да роднай зямлі, адчуваннем уласнай годнасці і заканамернасці і адметнасці сваёй прысутнасці ў цывілізаваным свеце!.. Тут вам і натуральная лучнасць з рэформай і гуманізацыяй школьнай адукацыі, аб чым так многа і горача гаварылася на з'ездзе, і адзін з самых эфектыўных падыходаў у патрыятычным выхаванні моладзі, на недахопы якога так часта скардзяцца нашы ідэалагічныя кіраўнікі

Думаю, пры жаданні можна апаратуўна вырашыць і пытанні з камплектацыяй беларускамоўных класаў, з папаўненнем школьных бібліятэк выданнямі нашых класікаў і сучасных таленавітых пісьменнікаў, з забяспечаннем настаўнікаў метадычнай літаратурай ... Усё гэта "рабочыя моманты", якія самі сабою страцяць вастрыню, як толькі дзяржава прама і сумленна прызнае: **стаўленне да беларускай мовы ў Беларусі ненармальнае, заяўлены ў Канстытуцыі яе статус павінен штодзённа і паўсюдна пацвярджацца рэальнымі справамі і рашэннямі.**

Але хіба не пра адваротнае сведчыць, напрыклад, такі быццам бы факт: за тры апошнія гады са сцен Міністэрства адукацыі не выйшла ніводнай грунтоўнай пастановы, накіраванай на падтрымку беларускага школьніцтва, затое больш года таму з'явіўся загад, у якім патрабавалася павялічыць увагу да вывучэння нямецкай, іспанскай і французскай моў? Загад, вядома ж, правільны, і выкладанне замежных моў трэба паляпшаць, але чаму не баліць душа ў педагагічных чыноўнікаў за родную мову, якую робяць на Радзіме падчаркай і гатовы вытурыць з бацькоўскай хаты? Дайшло ўжо да таго, што 10 красавіка мінулага года ў наўпроставым эфіры Беларускага тэлебачання адзін з гледачоў задаў надзвычай "актуальнае" пытанне: "Ці можна ў школе замяніць вывучэнне беларускай мовы на любую замежную?" і адзін з кіраўнікоў рэспублікі ...падзякаваў яму за тое, што "ў такім плане паставілі пытанне". Гэта не кашмарны сон, не выдумкі ворагаў прэзідэнта, гэта горкая рэальнасць, як і загад № 135 дырэктара Наваполацкай ЦЭЦ Ул.Лебедзева аб забароне на тэрыторыі давяранага яму прадпрыемства ўжываць беларускую мову ў аператыўнай і тэхнічнай дакументацыі.

Давайце не будзем хітрыць і прызнаемся сабе і іншым, што ў нашай краіне ўжо амаль няма дзяржаўнага двухмоўя. Па-сапраўднаму дзяржаўная мова ў нас практычна адна — на ёй гаворыць прэзідэнт, на ёй ідуць пасяджэнні Нацыянальнага сходу, на ёй вядуцца судовыя працэсы, на ёй выдаецца большасць афіцыйных газет. Найбольш здагадлівыя і кан'юктурныя палітычныя дзеячы добра ўлавілі настрой вярхоўных уладаў — і "членскія" дакументы БПСМ, напрыклад афармляюцца ўжо толькі на адной мове, расейскай, — эканомія сродкаў, сведчанне сапраўднага інтэрнацыяналізму і амаль гарантаваны пропуск у новы Савецкі Саюз. Забыліся нават і пра мудрага бацьку ўсіх часоў і народаў Іосіфа Вісарыёнавіча Сталіна, які з характэрнай для яго дакладнасцю і лаканічнасцю адназначна заявіў: "... Існуе беларуская нацыя, у якой ёсць свая мова, якая адрозніваецца ад расейскай, у выніку чаго ўзняць культуру беларускага народа можна толькі на роднай мове".

У гутарцы з карэспандэнтам "Звязды" з наіўнай шчырасцю і непахіснай перакананасцю пазіцыю многіх чыноўнікаў ад педагогікі выклаў начальнік Галоўнага ўпраўлення вышэйшай адукацыі Міністэрства адукацыі В.Дабранскі. Спярша ён як адсек: "Згодна з законам, беларускай і расейскай мовам нададзены статус дзяржаўных. Значыць студэнт мае права вывучаць любую з гэтых дзвюх". Вось так: не абедзве павінен ведаць і вывучаць, а адну — вядома ж, якую. А вы лямантуеце: двухмоўе, роўныя правы!.. Далей яшчэ цікавей: "... У Міністэрства асветы (так надрукавана. — Г.Б.) планаў стварэння нацыянальнага ўніверсітэта няма". Дык навошта тады, як ясна кожнаму даросламу чалавеку, нацыянальныя школы, уся гэтая смешная валтузня з беларускамоўнымі класамі, садкамі? — роднае слова на парог універсітэта вырашана не пушчаць!..

Вельмі цікава выказаўся В.Дабранскі і трошкі раней: "Увогуле, я думаю, што ідэя стварэння нацыянальнага універсітэта — яна надуманая. Уявіце, а раптам яўрэі пажадаюць мець свой універсітэт, ці палякі, ці татары?" Сапраўды: гэта ж проста жах, асабліва калі яўрэі захочуць мець нацыянальны універсітэт у Тэль-Авіве, палякі - у Варшаве, а татары - у Казані!.. Ад такой перспектывы можна не толькі сон страціць, але і напрымаць столькі грозных ведамасных распараджэнняў, што на свеце застанецца толькі адна нацыя і толькі адна мова ...

Папярэдзіць аб небяспецы падобных настрояў усёмагутных апаратчыкаў я і хацеў глыбокапаважаных удзельнікаў настаўніцкага з'езда ў прасторнай канцэртнай зале "Менск". Не далі магчымасці. Вось я і вырашыў выказацца праз газету.

Можа, сябры-настаўнікі (ды не толькі яны) пачуюць? Спадзяюся, што пачуюць.

*Генадзь Бураўкін,*
*старшыня Рэспубліканскай рады Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны*

